Аўторак
24 кастрычніка 2006 г.
№ 13 (21)
наклад 299 ас.
Рэдактар: Ігар Шчэкарэвіч

МП свой горад сваімі рукамі

# ПРАЎДА мастоўская

Калі вы жадаеце атрымліваць у далейшым наша выданне, калі ласка, дашліце sms з паведамленнем адраса, на які павінна прыходзіць "Мастоўская праўда" на нумар :
+ 370 677 29 646

# Выбары: мінімізаваць у трэй!

**Скасаваць выбары наша народная улада, зразумела, ня можа. Ёсьць такое страшнае слова легітымацыя! Але ж адпаведныя кампаніі можна, як кажуць кампутарнікі, «мінімізаваць у трэй». Каб ня мулялі вока электарату.**

Афіцыйны кіраўнік сёньня абмаляваў журналістам, як яму бачыцца новы склад мясцовых органаў улады: «Нам патрэбныя мясцовыя саветы ад жыцьця: не палітызаваныя, не партыйныя, не крыклівыя, не шумлівыя». І яшчэ: «Галоўнае, каб пасьля выбраньня дэпутатаў мясцовых саветаў не было гвалту, як гэта было напачатку дзевяностых».

Гэта ўжо гаворка адкрытым тэкстам. А то калі хуценька працягвалі праз парлямэнт зьмены ў выбарчае заканадаўства, дык чыноўнікі ўсё дзяўблі, якія шалёныя грошы можна ашчадзіць на адмене другога туру.

Дарэчы, насамрэч сума меркаванай эканоміі ў дзяржаўным маштабе сьмешная: са зьвестак ЦВК, каля 6 мільярдаў «зайчыкаў». (Дапамажэце, матэматыкі! Здаецца, гэта няпоўныя тры мільёны даляраў, то бок на два парадкі меней, чым каштаваў «алмаз ведаў»?). Увогуле ж на чарговую кампанію дзяржава адшкадуе 28,5 мільярда рублёў (трохі болей за адзін даляр на кожнага беларуса). Во ўжо наагітуюць кандыдаты!

Рытарычнае пытаньне: ці ня плюшкінскай выглядае эканомія, калі атрыбутыка нашых электаральных кампаніяў і так убогая дарэшты? На плякаты ды ўлёткі, як ведаеце, даецца мізэр, таму і выглядаюць яны самі бачыце! адпаведна. Нават празрыстых плястыкавых скрыняў на ўчастках дасюль няма (тут ужо і Цэнтральная Азія абскакала).

Галоўнае ж, кажа начальства, каб у саветах былі «прэзэнтаваныя людзі з месцаў: лекары, настаўнікі, рабочыя, сяляне». Зрэшты, вэртыкаль і так ужо пэўна пашчыравала над сьпісамі. Фактычна дзейнічае дэкаратыўна-прадстаўнічы прынцып савецкіх часоў.

Але, нават шчыльна ўзяўшы электаральны працэс пад каўпак, кіроўныя вярхі ўсё ж пабойваюцца нейкага форс-мажору. Як даводзіць палітоляг Валер Карбалевіч, дзеля легітымацыі нават самы жорсткі рэжым мусіць даваць апанэнтам каліва магчымасьцяў.

Увесну, падчас прэзыдэнцкіх выбараў, апазыцыя, насуперак прагнозам скрайніх пэсымістаў, усё ж здолела падкінуць некалькі сюрпрызаў. Напэўна, у высокага начальства і дасюль, мякка кажучы, непрыемныя ўспаміны.

Так што звышзадача усіх наступных кампаніяў простая: абы ціха!

А што да адмовы ад другіх тураў ды ад празрыстых скрыняў, дык любому зразумела, што праблема ня ў тым, каб зэканоміць тры грошы. Улада імкнецца зрабіць выбары трохграшовымі ў палітычным сэнсе. Ці, кажучы па-сучаснаму, мінімізаваць у трэй.

І калі ўжо доўжыць мэтафарычны шэраг, дык круціцца пытаньне: ці злаўчыцца калі-небудзь апазыцыя (я маю на ўвазе не імітацыйныя структуры, а праціўнікаў рэжыму ў шырокім сэнсе) удала клікнуць мышкай, каб разгарнуць праграму?

Аляксандар КЛАСКОЎСКІ



*Выбарчыя камісіі на выездзе*

## 10 судзьдзяў, пракурораў і сьледчых могуць стаць неўязнымі ў краіны ЭЗ

**Сьпіс могуць папоўніць: судзьдзі -- Аляксей Рыбакоў, Валеры Камісараў, Людзьміла Шапашнікава і Сяргей Хрыпач; супрацоўнікі пракуратуры -- Сяргей Бортнік, Андрэй Іванушкін і Мікалай Кулік. Таксама прапанавана ўключыць у сьпіс сьледчых, якія вялі справу Аляксандра Казуліна.**

З такой ініцыятывай выступіла грамадзкая камісія "Свабоду Казуліну!"на падставе вывучэньня справы экс-кандыдата на прэзыдэнта і працэсаў над ім.

Сябры камісіі лічаць перасьлед Аляксандра Казуліна цалкам палітычна матываваным і заклікаюць ўлады Беларусі перагледзець гэтую справу і вызваліць палітыка.

Паводле Радыё Свабода

## В очередном туре открытого чемпионата Беларуси по хоккею лидеры одержали победы

**В очередном туре открытого чемпионата Беларуси по хоккею с шайбой лидеры одержали победы.**

17 октября минское "Динамо" разгромило киевский "Сокол" - 8:0, а могилевское "Химволокно" - жлобинский "Металлург" - 4:0. Идущий на первом месте минский "Керамин" был свободен от игры.

Остальные результаты: "Витебск" - "Брест" - 4:2, "Химик-СКА" (Новополоцк) - "Неман" (Гродно) - 4:2, "Юность" (Минск) - "Гомель" - 4:3.

Положение команд: "Керамин" - 34 очка (16 игр, разница шайб 56-31), "Динамо" - 30 (15, 51-32), "Химволокно" - 30 (15, 49-35), "Химик-СКА" - 26 (16, 46-42), "Неман" - 26 (17, 37-39), "Гомель" - 23 (17, 56-44), "Юность" - 23 (15, 42-34), "Витебск" - 21 (16, 49-43), "Металлург" - 20 (15, 34-43), "Сокол" - 9 (15, 22-62), "Брест" - 7 (17, 28-65).

Очередной тур состоится 20 октября.

## Голодающих в Беларуси протестантов поддержали международные христианские организации

Международный христианский концерн (МХК) в Нью-Йорке обратился к белорусским властям с требованием прекратить преследование церкви "Новая жизнь".

TELEGRAF.BY

## Аляксандр МІЛІНКЕВІЧ звярнуўся да кіраўнікоў парламентаў ЕС, ЗША, Расіі ды Украіны

Лідэр аб'яднаных дэмакратычных сіл Беларусі Аляксандр Мілінкевіч сёння накіраваў зварот да кіраўнікоў парламентаў краін Еўрасаюза, ЗША, Расіі і Украіны з заклікам падтрымаць тых, хто церпіць за сваю палітычную пазыцыю ў Беларусі, і запатрабаваць ад палітычных лідэраў Беларусі спынення рэпрэсіяў і вызвалення ўсіх палітвязняў.




працяг на с.2

**Калі вы хочаце атрымліваць штодзённую рассылку навінаў "Свабоды" на ваш мабільны тэлефон, дашліце нам свой нумар тэлефона. Дасылайце смс на нумар 391-22-24.**

**На 1 верасьня 2006 г., насельніцтва Беларусі скарацілася да 9 мільёнаў 724 тысяч чалавек.**

Паводле Радыё Свабода

# Павал Красоўскі: «Калі мяне пачалі падазраваць яшчэ ў двух забойствах, я трохі супакоіўся»

**У нядзелю вечарам зь віцебскага ізалятара часовага ўтрыманьня быў вызвалены Павал Красоўскі. 23-гадовы актывіст з Жодзіна ад 4 кастрычніка знаходзіўся за кратамі паводле неймаверных падазраньняў: у арганізацыі леташніх віцебскіх выбухаў і двух забойстваў непаўналетніх дзяўчынак у 1999 годзе, калі Паўлу было толькі 16 гадоў. Нягледзячы на стомленасьць, у панядзелак зраніцы Красоўскі адказаў на пытаньні карэспандэнта «НН».**

«Наша Ніва»: Павал, чым праваахоўнікі патлумачылі Ваша вызваленьне пасьля такіх страшных абвінавачваньняў у злачынствах, у якіх Вас падазравалі?

Павал Красоўскі: Для мяне гэта застаецца таксама загадкай. Скончыліся дзесяць дзён, якія яны маглі мяне ўтрымліваць за кратамі без прад'яўленьня абвінавачваньня, далей утрымліваць мяне не маглі. Відавочна, што яны пабаяліся пачынаць супраць мяне працэс. Зь мяне не зьнялі канчаткова падазраньне, я мушу зьяўляцца допыты і зь мяне была ўзятая падпіска аб нявыезьдзе. Усіх падрабязнасьцяў сваёй справы я пакуль сам ня маю, бо яшчэ не сустракаўся з адвакатам Паўлам Сапелкам.

«НН»: Ці было прадчуваньне, што Вас мусяць вызваліць?

ПК: Не, не было. Пра вызваленьне з турмы я даведаўся літаральна за некалькі хвілінаў да таго, як я выйшаў з брамаў ізалятара.

«НН»: На чым, на якіх дакумэнтах грунтавалася абвінавачваньне супраць Вас?

ПК: Не было абсалютна ніякіх доказаў маёй віны. Існавала толькі адна папера, якая сьцьвярджала, што цягам апэратыўна-сьледчай дзейнасьці было высьветлена, што Красоўскі Павал мае дачыненьне да леташніх выбухаў у Віцебску. Быццам у мяне ў Віцебску ёсьць нейкія сувязі, нехта там мяне бачыў. Гэта была адзіная папера, на падставе якой вяліся допыты. Болей у сьледчых нічога не было.

«НН»: Што адбывалася на допытах?

ПК: Раней пра такое я чытаў толькі ў кніжках, цяпер перажыў гэта сваёй скуры. Адбываўся жахлівы псыхалягічны ціск. Мяне адкрыта прымушалі прызнацца ў гэтых злачынствах. Тры пытаньні яны задавалі цягам дзьвюх гадзінаў. Ціск не спыняўся ні на хвіліну. Вытрымаць усё гэта было вельмі цяжка і няпроста. Бралі нейкія аналізы крыві.



«НН»: Павал, як рэагавалі Вы на такія, абвінавачваньні, якія праваабаронцы тут, на волі, адразу сталі называць абсурднымі?

ПК: Ад пачатку я ня ведаю за што, зь якой прычыны мяне затрымалі, што інкрымінуюць, калі ж я даведаўся, што мяне абвінавачваюць у выбухах, што гэта «расстрэльны» артыкул, глеба пацiху пачала выплываць у мяне з-пад ног. Я быў у самым сапраўдным шоку. Усё існавала для мяне ў нейкай прастрацыі, у тумане. Было вельмі цяжка, але трэ было трымацца, бо амаль штодзень доўжыліся допыты. На пятыя-шостыя суткі, калі мяне пачалі падазраваць яшчэ ў двух забойствах, я трохі супакоіўся, бо зразумеў, што ніякіх доказаў сьледзтва ня мае, а мяне проста спрабуюць зламіць.

«НН»: Якімі былі ўмовы ўтрыманьня ў ізалятары?

ПК: Вось крыху прастудзіўся. У камэры было халаднавата. Па падлозе бегалі пацукі. Спалі на драўляных нарах. Камэра была разьлічаная на чатыры чалавекі, але звычайна ў ёй было меней людзей. Кармілі адзін раз на дзень а чацьвёртай вечара. Было вельмі цьмянае асьвятленьне, амаль немагчыма было чытаць.

«НН»: Павал, допыты тычыліся толькі тых справаў, у якіх Вас падазравалі, ці пыталіся і пра іншае?

ПК: Наўпроставых пытаньняў пра «Малады фронт» не было, але можна было здагадацца, што гэтая тэма іх цікавіць. Мяне неаднаразова пыталіся, ці ведаю я тых ці іншых людзей.

«НН»: За гэты год гэта ня першая спроба прыцягнуць Вас да крымінальнай адказнасьці. Ці не было пасьля ўсіх гэтых падзеяў думкі кінуць грамадзкую дзейнасьць?

ПК: Пра гэта рана гаварыць, за апошнія дні занадта шмат усяго сабралася. Гэта стане вядома пасьля таго, як я крышачку адыду ад зьняволеньня.

«НН»: Ці ёсьць упэўненасьць, што пасьля ўчорашняга вызваленьня Ваш пакінуць у спакоі?

ПК: Ня ведаю. Я бачыў, як яны працуюць, якія мэтады выкарыстоўваюць, таму быць у нечым упэўненым не выпадае.

У ноч на панядзелак Павал Красоўскі прыехаў дадому ў Жодзіна, дзе і знаходзіцца цяпер.

**Гутарыў Зьміцер Панкавец**

## "Президентские" домики стали "потёмкинскими"

**Шесть новых домов в деревне Осово под Бобруйском стали для своих хозяев наказанием. В жилищах нет ни воды, ни света, ни тепла. Удобства - лишь на бумаге.**

Издалека 6 новых домиков смотрятся почти как на картинке и вполне оправдывают своё народное название: в деревне их называют "президентские". Правда, счастливые обладатели этих сооружений говорят, что им больше подходит название "потёмкинские". Дома были сданы под ключ несколько месяцев назад. Теперь хозяева ищут, кому бы эти самые ключи вернуть обратно.

Какая комиссия принимала дома - для обладателей заветных ключей так и осталось загадкой. Кстати, от трёх домов ключи так и не нашлись. Пришлось взламывать. Жильё получили 4 многодетные и 2 молодые семьи. Правда, ни одна из них сюда так и не заселилась. Периодически приходят полюбоваться или в очередной раз переклеить обои, но не более того.

Виной всему - сырость. Были бы вода и газ, можно было бы протопить. Характерные разводы на потолках красноречиво гласят о качестве кровли. Кстати, газификация этих сооружений уже свершилась. Правда, пока только на бумаге.

Обещанная сантехника - теперь только за свой счёт, а с местными зарплатами эта перспектива - разве что на ближайшую пятилетку.

Всё вышеперечисленные блага цивилизации обещали привести в порядок к "Дажынкам". Сейчас разочарованные владельцы говорят, что, возможно, имелись в виду не эти, а следующие бобруйские "Дажынкі". Если посчитать общее количество белорусских районных центров, то теперь Бобруйск будет принимать праздник урожая примерно через 30 лет. Как раз когда вырастут дети.

**паводле парталу TUT.BY**

## Аляксандр МІЛІНКЕВІЧ звярнуўся да кіраўнікоў парламентаў

працяг. пачатак на с.1

“Падчас выбарчай кампаніі тысячы людзей былі арыштаваныя. Сёння больш за 10 чалавек за палітычную дзейнасць пазбаўленыя волі і знаходзяцца за кратамі. Сярод іх экс-кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Казулін, палітыкі Мікола Статкевіч, Андрэй Клімаў, моладзевыя лідэры Павал Севярынец, Артур Фінкевіч. Рэжым не спыніцца на гэтым, рыхтуючы новыя і новыя абвінавачванні і судзілішча”, - зазначае лідэр аб’яднаных дэмакратычных сіл.

**www.milinkevich.org**

**МАСТОЎСКАЯ ПРАЎДА**
грамадска-інфармацыйнае выданне Мастоўшчыны
№ 13 (21) 24 кастрычніка 2006 г.
**Заснавальнік: Аляксандр Зарэмбюк.** дэпутат 24 склік. Мастоўскага райсавета.
**Галоўны рэдактар: Ігар Шчэкарэвіч.**
**Верстальшчык: Сяргей Губарэвіч.**
Наклад: 299 асобнікаў.
Адрас рэдакцыі: г. Масты вул. Я.Купалы 1 . Беларусь.
e-mail: **masty.prawda@hotmail.com**
Надрукавана на фінасавыя ахвяраванні жыхароў г. Масты ў друкарні ААТ Бліц-Прынт, г. Кіеў вул. Даўжэнка, 9.
Выходзіць 1 раз на 2 тыдні.
Распаўсюджваецца бясплатна.